





## ТВП «ТУРАЎСКАЕ БАЛОННЕ-2009»

1 **Качка-лапаноска.** ♂ Фота Арцёма Халандача
2 **Кулік-случок.** Фота Вольгі Лукшыц
3 **Самка баталёна і кулік-селянец (справа).** Фота Юліі Дарашкевіч
4 **Сокал-пустальга.** ♀ Фота Уладзіміра Казлоўскага
5 **Баталёны.** Фота Кястуціса Чапёніса





Выхад у свет чарговага нумара «ПіМ» супадае з цэлым шэрагам неардынарных падзей, якія адбыліся ў нашай краіне ў галіне аховы прыроды. Адпаведна і значная частка матэрыялаў, змешчаных на старонках нашага часопіса, прысвечана менавіта ім.

Так атрымалася і, пэўна, нездарма, што бягучы год – год шэрай гусі – праходзіць пад сцягамі актыўнай барацьбы АПБ за прыпыненне веснавога палявання. Першы (і, на жаль, далёка не апошні) этап гэтай складанай, але вельмі патрэбнай дзейнасці завершаны, і хаця на выхадзе атрымалася не зусім тое, чаго мы дамагаліся, яго ўсё ж можна лічыць паспяховым. Актывісты АПБ сабралі больш чым за 20 тысяч подпісаў у падтрымку закрыцця веснавога палявання на вадаплаўных птушак у Беларусі. Вельмі прыемна, што сярод гэтых людзей аказалася шмат сумленных паляўнічых, якія дбаюць аб захаванні роднай прыроды, а не жывуць адным днём. Мэтазгоднасць веснавога палявання абмяркоўвалася з прадстаўнікамі дзяржаўнай улады на розных узроўнях, спецыялістамі арганізацыі быў падрыхтаваны адпаведны зварот у Адміністрацыю Прэзідэнта, усе гэтыя падзеі шырока асвечваліся сродкамі масавай інфармацыі краіны. На жаль, станоўчых вынікаў мы пакуль што не атрымалі, тым не менш, высветлілася, што нас падтрымліваюць тысячы людзей, сама ж праблема знайшла шырокае адлюстраванне ў дзяржаўных СМІ – для першага кроку не так ужо і мала.

Яшчэ адна знакавая падзея, якая адбылася першага траўня ў Тураве, – адкрыццё помніка кулiку-марадунцы, другога «птушынага» помніка ў нашай краіне, і звязанае з гэтым Свята птушак, дарэчы, першае ў гісторыі Беларусі. Свята дакладна ўдалося! Шматлікія творчыя калектывы, дзіцячыя і дарослыя, амаль з кожнай вёсачцы свой, самабытны, нацыянальныя касцюмы, арыгінальныя нумары, і ўсё гэта на добрым прафесійным узроўні – дзе вы яшчэ такое бачылі?! Ці варта дадаваць, што большасць нумароў была на птушына-прыродную тэматыку, больш таго, дзіцячыя калектывы падрыхтавалі цэлыя экалагічныя інсцэніроўкі, звязаныя з праблемамі таго альбо іншага віду птушак, што жывуць на Тураўскім балонні! Гарадскі антураж таксама быў (дарэчы, такім і застаўся) адпаведны асноўнай тэматыцы свята: інфармацыйныя стэнды на плошчы і на межах заказніка, нават фіранкі на вокнах гарадскога кафэ распавядалі пра пярнатых жыхароў Тураўшчыны. На наступны дзень пасля птушынага свята ўсё на тым жа славутым поплаве стартаваў другі – ужо амаль традыцыйны – чэмпіянат па фотапаляванню, арганізаваны выдавецтвам «Рыфтур» і рэдакцыяй часопіса «Дзікая прырода», на які сабралася ўся фотаанімалістычная эліта Беларусі. Рэпартаж аб гэтай падзее таксама на старонках нашага нумара.

Не астаюцца па-за нашай увагай і рэдкія віды птушак, дадзеныя па распаўсюджанні і гнездаванні якіх у нашай краіне вельмі абмежаваныя. Дзякуючы цэламу шэрагу маладых ініцыятыўных арнітолагаў, якія ахапілі сваімі даследаваннямі амаль усю тэрыторыю Беларусі, былі знойдзены новыя месцы гнездавання рэдкіх прадстаўнікоў атрада ракшападобных, амаль штогод адзначаюцца новыя для беларускай арнітафауны віды. На жаль, перыядычнасць выхаду «ПіМ» не дае магчымасці своечасова рэагаваць на гэтыя навіны, але, на наш погляд, навіна – гэта лаканічная рафінаваная канстатацыя падзеі, аб'яўленая, як кажуць, «па гарачых слядах», яна больш к месцу ў іншых, апаратыўных, сродках інфармацыі. Мы ж маем магчымасць расказаць аб усіх сенсацыйных падзеях разгорнута, з першых вуснаў, пазнаёміць чытачоў з асабістымі назіраннямі і перажываннямі аўтараў усіх гэтых адкрыццяў. І, урэшце, добрая навіна застаецца навіной пакуль не адбудзецца яшчэ нешта такога кшталту. Але аб гэтым – у наступны раз.

*Сяргей ЗУЁНАК*

# ЗМЕСТ

**ПТУШКІ І МЫ**
**№14'2009**



На здымку: **Зімародак**
(фота Тацяны Раманавай)



**У папярэднім нумары (№13 за 2008 год) былі дапушчаны наступныя памылкі:**

| *Старонка* | *Напісана* | *Трэба чытаць* |
|---|---|---|
| 10, трэці слупок, радкі 34-35 | чырвонай дзюбай | чырвонымі вачыма |
| 12 | Наталля Карлёнава | Наталля Карліонава |
| 12-13 | сябра Цэнтральнай Рады | сябра Цэнтральнага Савету |
| 12-13 | APB Birdlife Belarus - 2008 | APB - BirdLife Belarus - 2008 |

*Рэдакцыя просіць прабачэння ў чытачоў і ў Наталлі Карліонавай асабіста.*




*Галоўны рэдактар:* Віктар Фянчук
*Адказны рэдактар:* Сяргей Зуёнак
*Рэдакцыйная рада:* Уладзімір Іваноўскі, Аляксандр Вінчэўскі, Дзьмітры Вінчэўскі, Ігар Бышнёў, Ірына Самусенка, Сяргей Плыткевіч, Павел Пінчук.

Распаўсюджваецца бясплатна сярод сяброў АПБ
Рэгістрацыйны №2714 ад 27.06.2008 г.
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
*Наш адрас:*
АПБ, а/с 306, Мінск, 220050, Беларусь
Тэл. (017) 263 01 30. Факс (017) 263 06 13
E-mail: info@ptushki.org. **www.ptushki.org**
*Дзейнасць АПБ падтрымліваецца Каралеўскім Таварыствам Абароны Птушак (RSPB), партнёрам BirdLife International у Вялікабрытаніі. АПБ з'яўляецца афіцыйным прадстаўніком BirdLife International у Беларусі*









Выдавецтва «Рыфтур». Ліцэнзія №02330/0494305 ад 2.03.2009 выдадзена Мінінфармацыі РБ.
Надрукавана ў друкарні «Джи энд Ди».
Ліцэнзія №02330/0150065 ад 15.06.2008 выдадзена Мінінфармацыі РБ. Наклад 1200 ас. Замова №318

# ЗАБОЛАЧИВАНИЕ ОСУШЕННЫХ ТОРФЯНИКОВ И ЕГО ЗНАЧЕНИЕ ДЛЯ КЛИМАТА








**Мертен Минке, Аннет Тиле**
Перевод с немецкого: Наталья Минке




Bundesministerium für Umwelt, Naturschutz und Reaktorsicherheit

**«Восстановление торфяников Беларуси и применение концепции их устойчивого управления. Снижение воздействия на климат с эффектом для экономики и биоразнообразия»** – под таким названием в сентябре 2008 года в Беларуси стартовал трехлетний природоохранный проект, финансируемый Федеративной Республикой Германия через «Германский банк развития» в рамках международной инициативы по охране климата Федерального министерства охраны природы и ядерной безопасности. Проект выполняется общественной организацией «Ахова птушак Бацькаўшчыны» совместно с Фондом им. Михаеля Зуккова (Германия) и Британским королевским обществом по охране птиц (Великобритания) при поддержке ПРООН в Республике Беларусь и Министерства природных ресурсов и охраны окружающей среды Республики Беларусь.


Вторичное заболачивание в Северной Германии. С помощью системы автоматических и ручных камер ученые из института города Мюнхеберга определяют годовой баланс обмена $CO_2$, $CH_4$, $N_2O$ (М. Минке)

Болота влияют на содержание в атмосфере трех парниковых газов: двуокиси углерода ($CO_2$), метана ($CH_4$) и закиси азота ($N_2O$). Эти газы пропускают солнечный свет на землю, но задерживают исходящее от земли тепловое излучение, что и приводит к общему потеплению климата, или, иными словами, к парниковому эффекту. Учитывая различные способности этих газов абсорбировать тепловое излучение, а также их разную продолжительность нахождения в атмосфере, Межправительственная группа экспертов по изменению климата (IPCC, 1996 г.) присвоила этим газам следующие «климатические потенциалы»: двуокись углерода – 1, метан – 21, закись азота – 310. За основу был взят временной отрезок в 100 лет. Это означает, что в своем воздействии на климат 1 тонна метана соответствует 21 тонне двуокиси углерода.

В естественных, насыщенных водой болотах отмершая биомасса не разлагается полностью. Примерно одна десятая ее часть откладывается в виде торфа. Часть углерода, которую растения получили в виде углекислого газа и использовали для строительства своей ткани, сохраняется в болоте навечно. Таким образом естественное болото изымает $CO_2$ из атмосферы. Следующим результатом анаэробных процессов, происходящих в живом болоте, является образование метана как продукта жизнедеятельности метаногенных бактерий. Высокий уровень воды в живом болоте и наличие растений с воздухоносными сосудами создают условия для выброса образовавшегося метана в атмосферу. Но объемы выделения этого газа в естественных болотах значительно ниже, чем объемы поглощения двуокиси углерода, и, соответственно, его воздействие на изменение климата несущественно.

В осушенных болотах кислород беспрепятственно проникает в сухой торф, и в результате происходящих там окислительных процессов в атмосферу выделяется двуокись углерода. Соответственно, осушенное болото не снижает выбросы парниковых газов, а, напротив, является их источником. Все болота мира содержат в себе около 550 гигатонн углерода. Это в два раза больше, чем его содержится во всех лесах мира, и составляет 75% от всего количества углерода, содержащегося в атмосфере. Выброс этих запасов углерода, который может произойти в случае полного осушения болот планеты, вызовет весьма тяжелые последствия для климата. Уже сейчас осушенные болота во всем мире являются источником 10% углекислого газа, попадающего в атмосферу в результате деятельности человека. Метан осушенные болота не выделяют, однако часто являются сильными источниками закиси азота, образующейся в результате нитрификации.


Осушенное болото в Ирландии через несколько лет после прекращения добычи торфа (М. Минке)

После вторичного заболачивания торфяная залежь снова будет насыщена водой и свободна от воздуха. Благодаря этому снизится выброс в атмосферу двуокиси углерода и закиси азота, но при этом увеличится выброс метана.

В естественных, осушенных и восстановленных, болотах объемы выброса трех парниковых газов сильно варьируют в зависимости от типа болота, формы его использования в случае осушенного

торфяника, качества и уровня воды, свойств торфа, растительности, насыщенности питательными веществами и географической широты местности.

Для торговли на углеродном рынке решающим является годовой баланс газообмена, происходящего между болотами и атмосферой. Для его точного определения после вторичного заболачивания можно было бы установить на восстанавливаемых болотах систему «Эдди» – башни с газовыми сенсорами, которые могли бы последовательно измерять эмиссию до, во время и после обводнения болот. Газовые сенсоры определяют концентрацию каждого парникового газа в вихре воздуха, а анемометр – направление воздушного вихря. Таким способом можно получить данные об обмене парниковых газов в каждом выбранном участке болота. Подобная измерительная техника очень дорогая и сложная. Учитывая наличие множества торфяников, выбранных для восстановления в Беларуси, такую систему мониторинга финансировать было бы просто невозможно. Вторая, широко распространенная и недорогая, технология измерения состоит в использовании небольших переносных камер. Камера, которая устанавливается на выбранный участок, препятствует обмену воздухом между этим участком и окружающей атмосферой. Нормы обмена парниковыми газами высчитываются с учетом изменения концентрации газов в камере за определенный период. Камеру можно устанавливать на точно выбранном участке экосистемы и таким образом определять нормы обмена парниковыми газами на различных типах местности. К сожалению, этот метод не очень адекватен для измерения газообмена на крупных неоднородных территориях.

В поисках надежных индикаторов для определения баланса парниковых газов осушенных болот и болот после вторичного заболачивания ученые из Грейфсвальдского университета Германии проанализировали всю научно-исследовательскую литературу об обмене парниковых газов в умеренной климатической зоне Европы. При этом годовые балансы обмена парниковых газов белорусских осушенных болот не могли быть учтены, так как на них подобные исследования не проводились. В результате проведенного анализа было выявлено, что баланс парниковых газов в первую очередь зависит от уровня воды в болоте. Абиотические же свойства участка, такие как насыщенность питательными веществами и уровень кислотности, влияют на газообмен в гораздо меньшей степени. При среднем уровне грунтовых вод в 1 м и ниже от поверхности почвы, в атмосферу ежегодно выбрасывается примерно 25 тонн двуокиси углерода на 1 га. Чем ближе уровень воды к поверхности почвы, тем меньше выделяется $CO_2$. Выброс закиси азота происходит, если уровень воды расположен в 15 см и ниже от поверхности почвы. Если глубина расположения уровня воды составляет менее 20 см, то в атмосферу выделяется метан.

Так как видовой состав растительности существенно зависит от среднего уровня воды, ученые разработали модель, которая позволяет оценить баланс парниковых газов на основании анализа типов растительных сообществ. Закись азота в эту модель не была включена, так как годовой баланс выброса этого газа технически очень сложно определить, и, кроме того, после вторичного заболачивания его выбросов уже практически не будет.



**Измерение обмена $CH_4$ и $N_2O$ ручными камерами в Северной Германии (М. Брожина)**

Наблюдения за двуокисью углерода и метаном уже показывают, что в результате вторичного заболачивания их эмиссия снизится в среднем на 15 тонн углеродного эквивалента на 1 гектар.

Задачей немецких специалистов, новых сотрудников АПБ, является тестирование, адаптация и расширение для Беларуси модели, которая устанавливает связь между определенным видовым составом растительности и балансами обмена метана и двуокиси углерода. Для этого они должны проверить, насколько баланс парниковых газов модельных типов растительности соответствует балансу этих же типов растительности в Беларуси. У модели есть еще много пробелов, так как данные по газообмену многих встречающихся в Беларуси типов растительных сообществ отсутствуют.

В рамках проекта будет изучаться растительность осушенных болот и болот после вторичного заболачивания и ее взаимосвязь со средним уровнем воды и качеством торфа. Наряду с этим будет определяться баланс парниковых газов различных репрезентативных типов растительных сообществ. На полученных данных будет создана модель, которая даст возможность оценивать баланс парниковых газов болот Беларуси до и после вторичного заболачивания с помощью картирования типов растительных сообществ. В рамках проекта будет также протестировано, насколько возможно давать такую оценку на основе анализа спутниковых снимков.

В ходе проекта будут созданы лаборатория и рабочая группа из молодых белорусских ученых, которые после отъезда немецких специалистов на родину продолжат исследования по измерению баланса парниковых газов.

Если проект окажется успешным, то в скором времени не нужно будет искать финансовые средства на реставрацию болот и дальнейшее управление ими для поддержания их биоразнообразия. Эти средства можно будет получать из фонда, созданного при продаже углеродных квот вследствие вторичного заболачивания ранее осушенных территорий. Учитывая, что на Третьей международной конференции фонда Михаэля Отто срочно нуждающимися во вторичном заболачивании были объявлены 260 000 гектаров осушенных и деградированных болот Беларуси, этот фонд может достигнуть значительных размеров, и тогда Беларусь станет лидером не только по масштабам восстановления болот в Европе, а также и в инновационном решении задач по сохранению биоразнообразия, защите климата и развитию экономики.



**Измерение обмена $CO_2$ с прозрачной камерой в Северной Германии (М. Минке)**

# СУМНАЯ ГІСТОРЫЯ «ПАЎНОЧНАГА ПІНГВІНА»

**Дзьмітры ВІНЧЭЎСКІ,** Гродненскае абласное аддзяленне АПБ



Малюнак J. G. Keulemans`a (1842–1912). www.classicnatureprints.com

### Каго першага назвалі пінгвінам?

Пінгвінаў, якія жывуць у Паўднёвым паўшар'і, ведаюць усе. Але мала каму вядома, што сама назва «пінгвін» мае паўночнае паходжанне. Так раней называлі бяскрылую гагарку. Існуюць розныя версіі паходжання гэтай назвы. Па адной з іх, паходзіць яна ад валійскіх слоў «pen gwyn» – белагалоў – і была дадзена птушцы за вялікія белыя плямы ля вачэй, якія з'яўляліся ў гагарак у шлюбным уборы. Па другой – англійскія маракі за недаразвітыя крыльцы называлі гагарку «pin wing» – шпількакрыл. І, нарэшце, па трэцяй версіі – ад лацінскага «pingus» – тоўсты. Так ці інакш, назва перайшла ў многія мовы. *Pinguinus impennis (або Alca impennis)* – навуковая назва гэтай птушкі. Адносіцца яна да сямейства чысцікавых.

Бяскрылую гагарку добра ведалі еўрапейскія маракі, і калі пад час падарожжаў у паўднёвых морах яны сустрэлі падобных птушак, дык назвалі іх таксама пінгвінамі.

### Як жылі гагаркі

Гэта была параўнальна вялікая, з гусь, птушка – вышынёй 70-85 см, з крыламі даўжынёй усяго 15–17 см. У канцы траўня-чэрвені самка адкладвала непасрэдна на голыя каменні адзінае яйка грушападобнай формы. Па аналогіі з іншымі чысцікавымі лічыцца, што наседжвалі яго абодва з бацькоў па чарзе каля 40 дзён. Птушаняты выводзіліся ў цёмна-шэрым пухавым уборы і амаль адразу разам з бацькамі адплывалі ў мора. Наступныя 10 месяцаў свайго жыцця птушкі праводзілі на вадзе разам і трымаліся пераважна ў багатых на дробную рыбу месцах. Гагаркі выдатна плавалі і давалі нырца, дапамагаючы сабе пад вадой крыламі. Тоўсты слой падскурнага тлушчу забяспечваў надзейную цеплаізаляцыю пад час знаходжання ў халоднай вадзе. Акрамя рыбы, гагаркі харчаваліся таксама ракападобнымі і іншымі дробнымі марскімі арганізмамі. Размнажацца яны маглі, толькі дасягнуўшы ўзросту 4 або 7 гадоў (дакладна невядома). Гнездаваліся птушкі разам з іншымі чысцікавымі звычайна на абрывах прыбярэжных скал. У найбольш спрыяльных месцах утвараліся вялізныя калоніі, якія налічвалі да сотні тысяч пар.

### Гагаркі і людзі – пачатак знікнення

У гагарак было і некалькі іншых назваў, што сведчыць пра даўняе знаёмства і цесныя кантакты з імі людзей. Старажытныя скандынавы называлі яе «гэйрфугель» – птушка-кап'ё, а баскі – «арпоназ» (кап'енос). Абедзве гэтыя назвы, напэўна, паходзяць з-за моцнай кап'епадобнай дзюбы гэтай птушкі.

У дагістарычны час бяскрылая гагарка была шырока распаўсюджана па ўзбярэжжах і астравах усёй паўночнай часткі Атлантыкі: ад Лабрадора і Ньюфаўндленда да Грэнландыі і Ісландыі, і ад Нарвегіі да Брытанскіх астравоў. Плейстаценавыя рэшткі гагарак знойдзены ў Міжземнамор'і, у Партугаліі і на Мадэйры. Косткі гэтай птушкі археолагі знаходзілі ў кухонным смецці першабытных людзей у Францыі і Іспаніі. Іх колькасць сведчыць як аб шырокім распаўсюджанні птушак, так і аб параўнальна інтэнсіўным паляванні на іх у тыя часы.

Зразумела, што першабытныя паляўнічыя не маглі зрабіць такой шкоды птушкам, як іх нашчадкі, але ўжо да Сярэднявечча гагаркі зніклі з узбярэжжаў кантынентальнай Еўропы, знаходзячы сабе прытулак толькі на цяжкадаступных для чалавека скалістых астравах. Там іх не маглі дастаць наземныя драпежнікі. Усе, акрамя аднаго. Як напісаў Э. Фуллер, гэтая птушка была асуджана на знікненне з таго дня, як чалавек упершыню змайстраваў лодку.

## Лёгкая здабыча

Бяскрылая гагарка з даўніх часоў была пастаянным аб'ектам палявання прыморскіх жыхароў. Няздольнасць да палёту, вялікія калоніі на гнездаванні і даверлівасць рабілі яе параўнальна лёгкай здабычай. Назіральнікі пісалі, што гагаркі не баранілі свае яйкі, калі ж нападалі на саміх птушак, яны спрабавалі кусацца.

Для сярэднявечных маракоў, якія былі вымушаны працяглы перыяд часу харчавацца саланінай і сухарамі, калоніі марскіх птушак здаваліся «маннай нябеснай». Найбольш зручнай здабычай сярод іншых марскіх птушак аказаліся бяскрылыя гагаркі, таму ім, напэўна, і дасталося больш за іншых. А птушкам, якія гнездаваліся ў раёне Ньюфаўндленда, пашанцавала найменш – яны аказаліся на папулярным марскім шляху з Еўропы ў Амерыку. Да астравоў падыходзілі караблі, каб зрабіць запасы харчавання, і адплывалі, напоўненыя тушкамі птушак. Яшчэ ў 1570-х гадах капітан Паркхёрст пісаў пра гагарак: «Французы, якія рыбачаць у раёне Вялікага заліва (зараз заліў Святога Лаўрэнцыя), бяруць з дому толькі невялікі запас мяса і ўвесь час харчуюцца гэтай птушкай».

Пазней да рыбакоў падключыліся перасяленцы з Еўропы. Для многіх з іх птушкі таксама сталі асноўным харчаваннем. Прыкладна ў 1615 г. адзін з іх зазначыў, што «найбольшую здабычу прывозяць з некаторых астравоў, дзе ... птушкі водзяцца ў такім мностве, што міжволі здзіўляешся іх колькасці і для многіх яна здаецца амаль неверагоднай... Мы заходзілі на такія астравы, дзе на працягу пятнаццаці хвілін даверху загружалі птушкай наш баркас. Трэба было толькі малаціць іх коллем, пакуль хапала сіл». Па меры росту колькасці насельніцтва на Атлантычным узбярэжжы Амерыкі, нарыхтоўка мяса і яек марскіх птушак рабілася ўсё больш выгаднай справай.

«Дасведчаныя» зборшчыкі яек пісалі наступныя рэкамендацыі: «Калі вы выпраўляецеся на востраў Фанк за яйкамі і хочаце дакладна атрымаць іх свежымі, рабіце наступным чынам: зганіце з гнёздаў, забіце і зграбіце няшчасных пінгвінаў у кучу. Потым зграбіце ў кучу ўсе іх яйкі гэтак сама, як вы гэта робіце з апаўшымі яблыкамі ў вашым садзе... ачысціўшы ад іх кавалак зямлі... вы пакідаеце яго на дзень-другі... вярнуўшыся пасля гэтага на тое самае месца, вы напэўна знойдзеце там шмат толькі што адкладзеных яек!»

Трэба нагадаць, што гагаркі адкладвалі толькі адно яйка за гнездавы сезон і не рабілі паўторных кладак...

Не меншыя спусташэнні сярод птушак адбываліся падчас загатоўкі тлушчу, на які быў вялікі попыт. Бяскрылыя гагаркі былі для гэтага ідэальным аб'ектам. Караблі, якія лавілі траску ля берагоў Амерыкі, забіралі на борт па 10–12 бочак «ворвані пінгвінаў». Каб атрымаць яе, забівалі тысячы кап'еносаў. Дарэчы, вытопліваць ворвань можна



Малюнак з кнігі знакамітага амерыканскага натураліста і мастака Джона Джэймса Адзюбона (1785–1851)





Яйка бяскрылай гагаркі з музейнай калекцыі Norwich Museum, Нарфолк, Вялікабрытанія. www.museums.norfolk.gov.uk

Помнік апошняй брытанскай бяскрылай гагарцы, забітай у 1813 г. Усталяваны юнымі сябрамі Orkney Field Club на востраве Бэкэскэйл (Backaskaill) у 1988 г. www.flickr.com

было і на астравах, на якіх не было аніякай расліннасці. Агонь падтрымлівалі з дапамогай скурак і тушак забітых гагарак. Часам скуры абдзіралі з яшчэ жывых птушак, а іншых гэтак жа спальвалі зажыва.

Рыбакі ўбачылі, што разадраныя на кавалкі тушкі кап'еносаў – выдатная прынада для траскі, і пачалі лавіць і дарослых птушак, і птушанят.

Нягледзячы на гэткае бесперапыннае знішчэнне, бяскрылыя гагаркі пратрымаліся некалькі стагоддзяў! Якой жа была іх колькасць да пачатку маштабных забойстваў?

## Толькі пух і пер'е

Дабіў гагарак у сярэдзіне XVIII стагоддзя попыт на пер'е і пух, які вельмі павялічыўся. Пасцельная бялізна і набіўка мэблі патрабавалі шмат птушыных ахвяр. Прадпрымальныя дзялкі пачалі рыхтаваць караблі для набегаў на калоніі марскіх птушак. Акрамя гагарак, дасталося і іншым каланіяльным марскім птушкам. Але апошнія калоніі бяскрылых гагарак ля берагоў Амерыкі зніклі менавіта да пачатку XIX стагоддзя.

Адзін з загатоўшчыкаў занатаваў: «Востраў Фанк уяўляе з сябе пустыннае месца, населенае толькі пінгвінамі і іншымі птушкамі, якіх тут столькі, што проста не верыцца. Як толькі вы ступілі нагой на бераг, вас акружаюць тысячы птушак, яны блытаюцца пад вашымі нагамі і нагэтулькі лянівыя, што нават не спрабуюць адыйсці з вашага шляху.

Калі вы прыйшлі за пер'ем, дык вам нават няма патрэбы іх забіваць. Трэба проста схапіць птушку ў рукі і павышчып-

ваць у яе пер'е як мага лепш. Пасля гэтага вы пакідаеце няшчасную птушку на волю лёсу, напаўголую, з разадранай скурай – няхай сабе паціху здыхае. Не вельмі гуманны спосаб, але гэтак выглядае агульнапрынятая практыка». Другі «не вельмі гуманны спосаб» зводзіўся да наступнага: аглушаных птушак зажыва кідалі ў катлы з кіпенем, каб было лягчэй выдзіраць з іх пер'е.

### Першыя і апошнія пратэсты

Жыхары ўзбярэжжаў, якія самі дагэтуль не шкадавалі птушак, нарэшце зразумелі, што хутка яны могуць застацца без таннай крыніцы мяса і тлушчу. У 1775 г. улады Ньюфаўндленда звярнуліся да англійскага караля са зваротам забараніць паляванне на птушак дзеля нарыхтоўкі пер'я, дазволіўшы іх здабычу толькі для ежы і прынадаў для лоўлі рыбы.

Толькі ў 1794 г. – праз 19 год пасля звароту – брытанскі міністр па справах калоній забараніў паляванне на гагарак. Але было ўжо позна, нават калі б распараджэнне і не праігнаравалі. Да 1802 г. апошняя вядомая ў Паўночнай Амерыцы калонія бяскрылых гагарак на востраве Фанк была знішчана. Пасля калекцыянеры яшчэ нейкі час збіралі тут косткі і шкілеты гагарак для музейных і прыватных калекцый.

### Пачатак канца

Да 1820-х гадоў гагаркі засталіся толькі на двух невялічкіх астраўкахскалах ля паўднёва-заходніх берагоў Ісландыі: Гэйрфугласкеры (назва перакладаецца як «гагаркавыя шхеры») і Элдэі. Гэйрфугласкер служыў надзейным сховішчам для апошніх птушак. З-за бесперапыннага магутнага прыбою востраў быў амаль недаступны для людзей. Аднак пасля моцнага падводнага вулканічнага вывяржэння ўзімку 1830 г. Гэйрфугласкер знік у моры. Такім чынам, адзіным вядомым месцам гнездавання гагарак засталася невялічкая калонія на востраве Элдэй.

Да гэтага часу прамыславікі забыліся на кап'еносаў як на аб'ект палявання. Але з'явіліся калекцыянеры, якія паставілі апошнюю кропку ў драме, ператварыўшы яе ў трагедыю. Калі стала зразумела, што дні «паўночнага пінгвіна» злічаны, кошты на чучалы і яйкі гагарак імгненна павялічыліся. Прыкладна з 1830 г. купцы ў Рэйк'явіку – сталіцы Ісландыі – пачалі атрымліваць замовы з прапановай добрых грошай за кап'еносаў. Адзін з купцоў дамовіўся з рыбакамі, якія сталі рабіць рэгулярныя «набегі» на апошнюю калонію. Да 1843 г. праз рукі дзялка прайшло ад 50 да 75 гагарак і невядомая колькасць



**Шкілет вялікай гагаркі з калекцыі Каралеўскага музея Шатландыі ў Глазга**

яны ўвайшлі ў гісторыю. У любой гісторыі ёсць свае міфы, няхай гэта будзе адзін з іх...

Пасля гэтага звесткі пра сустрэчы з бяскрылымі гагаркамі ў розных месцах паступалі яшчэ на працягу дзесяці гадоў, але пацвердзіць іх не атрымалася.

### Вяртанне?

Ад некалі квітнеючага віду птушак засталося 78 чучалаў і тушак у музеях, 75 яек ды некалькі шкілетаў. Зараз яны каштуюць неймаверныя грошы. Ужо ў 1890 г. за чучала гагаркі давалі да 400 фунтаў стэрлінгаў. У той час за гэтыя грошы можна было набыць дом у Лондане.

У памяць пра першы від птушкі, які ў гістарычны час знік з еўрапейскага і амерыканскага кантынентаў, часопіс Амерыканскага арніталагічнага з'вязу называецца The Auk – бяскрылая гагарка.



S. HIBBS,
PRESERVER OF BIRDS, ANIMALS, FISH &c.
OLLERTON,
NOTTS
COLLECTIONS CLEANED & ARRANGED.
FOREIGN SKINS MOUNTED IN CASES OR GLASS SHADES.
STAGS, DEERS, & FOXS HEADS TASTEFULLY MOUNTED.
GENTLEMENS PRIVATE COLLECTIONS ATTENDED TO.

**Адна з тагачасных рэкламных абвестак таксідэрміста – спецыяліста па чучалах**

яек, якія апынуліся ў калекцыях па ўсёй Заходняй Еўропе. Выглядае на тое, што гэта былі апошнія птушкі...

Сухія лічбы пра апошнія гады існавання гагарак выглядаюць наступным чынам: у 1830 г. на востраве знайшлі 12 або 13 птушак, з якіх 8 здолелі забіць; у 1831 г. забілі 24 птушкі, у 1833-м – 13, у 1834-м – 9. У 1840 і 1841 гг. забілі яшчэ трох птушак і забралі некалькі яек...

### Канец

Апошні акт трагедыі разыграўся 3 чэрвеня 1844 г. Ісландскія маракі высадзіліся на Элдэі і злавілі апошнюю пару гагарак. Птушак задушылі і абадралі. Але па дарозе ў Рэйк'явік рыбакі прадалі шкуркі гагарак не таму дзялку, які заплаціў за «экспедыцыю», а другому «аматару птушак», які прапанаваў ім больш... Ці былі гэтыя птушкі сапраўды апошнімі прадстаўнікамі свайго віду, ужо ніколі не атрымаецца выявіць. Ва ўсялякім разе менавіта ў гэтай якасці

Цікава, што перамяшчэнні чучалаў гагарак па свеце абумоўлены не толькі жаданнем атрымаць у калекцыю рэдкі экземпляр, але і запозненым раскаяннем. У 1971 г. дырэктар Ісландскага музея натуральнай гісторыі на аўкцыёне Сотбі заплаціў 33 000 долараў за чучала гэйрфогеля, забітага, падобна, на востраве Элдэй. Грошы былі сабраныя па грамадскай падпісцы, і, па словах дырэктара музея, можна было б сабраць і нашмат большую суму – настолькі вялікім было жаданне ісландцаў вярнуць на востраў хаця б у такім выглядзе частку страчанай прыроднай спадчыны.

Трэба памятаць, што нават самы складаны знішчаны будынак можна адбудаваць, але ўваскрэсіць біялагічны від людзі не змогуць ніколі...

*Паводле: В.Н.Грищенко «Пингвин северных морей», Гуманитарный экологический журнал, 6 (1) - 2004, с. 3–11*

# ГРАКІ-ВЫНАХОДНІКІ

**Вадзім ПРАКАПЧУК,** Заходне-Палескае аддзяленне АПБ

Мабыць, не толькі мне, але і шмат каму з вас, даводзілася чуць, а магчыма, і самім быць сведкай выпадкаў, звязаных з дзіўнай вынаходлівасцю прадстаўнікоў птушынага свету, асабліва з сямейства воранавых. Гэтыя, без сумнення, найбольш блізкія нашы суседзі неаднаразова здзіўлялі, а часам і прымушалі ўсміхнуцца з прычыны іх нестандартных прыдумак і неардынарных паводзін.


ФОТА: ЭЛЛА ДАНЦОВА

Якіх-небудзь мэтанакіраваных назіранняў за жыццём гракоў мною не праводзілася, аднак некалькі эпізодаў, сведкай якіх я быў, на мой погляд, заслугоўваюць увагі...

У адзін з сонечных вераснёўскіх дзён, у пасляабедзенны час, на адным з ліхтароў па вуліцы Калініна ў Брэсце быў заўважаны дарослы грак, які з зайздроснай упартасцю раздзёўбваў заціснуты ў лапах грэцкі арэх. На праезджую частку ўсё падалі і падалі кавалачкі арэхавай шкарлупіны. Праз нейкі час (каля 2-3 хвілін – менавіта столькі працягвалася аперацыя) грак скончыў усе справы з арэхам і паляцеў у глыбіню прыватнай забудовы мікрараёна Кіеўка. Праз некаторы час ён вярнуўся на той жа ліхтар, але ўжо з новым заціснутым у дзюбе арэхам. І карціна, якая была апісана вышэй, зноў паўтарылася. Хацелася б адзначыць яшчэ і такую дэталь – пад ліхтаром валялася шмат арэхавай шкарлупіны, што здалёк нагадвала ўсім вядомую дзятлаву кузню.

Практычна праз месяц на адным з прысядзібных участкаў зноў-такі па вуліцы Калініна назіралася вельмі падобная сітуацыя, але толькі з адной розніцай: замест ліхтара ў якасці «апоры» птушка выкарыстоўвала шчыліну, якая знаходзілася на даху звычайнай, зробленай з драўляных брускоў, цяпліцы. Колькасць шкарлупін пад цяпліцай давала падставы меркаваць аб тым, што грак выкарыстоўваў шчыліну не адзін дзесятак разоў.

Наступны выпадак, звязаны таксама з асаблівасцю харчавання гракамі ўсё тымі ж грэцкімі арэхамі (здаецца, гэты даволі шырока распаўсюджаны ў Брэсце паўднёвы плод прыйшоўся да спадобы нашым меншым сябрам-суседзям). На краі праезджай часткі, што па праспекце Машэрава каля аўтобуснага прыпынку «Вул. МОПРа», быў заўважаны грак, які дзелавіта прагульваўся па асфальце. Птушка раз-пораз штосьці падхоплівала дзюбай з асфальту. Як толькі ўзнавіўся рух транспарту, рэгуліруемы светлафорам, грак хутка выскачыў на бардзюр, і, узняўшыся ў паветра, паляцеў у бок чыгуначнага вакзала «Палескі». Зусім хутка птушка вярнулася і села на ліхтар, які навісаў над праезджай часткай крыху збоку ад прыпынку. Літаральна адразу ж уніз, на асфальт, зваліўся грэцкі арэх. Грак зляцеў з ліхтара і сеў на бардзюр насупраць арэха, які ляжаў на дарозе. Мяне зацікавіла – што ж будзе далей?.. Тройчы аўтамабільны паток, які кранаўся ад светлафора, праязджаў міма птушкі, якая толькі крочыла туды-сюды па бардзюры. Раптам, як толькі транспарт зноў спыніўся, грак выскачыў на асфальт і спрытна дзюбай «рассарціраваў блін», які застаўся ад арэха. Транспарт зноў кранууся – і грак спешна адляцеў.

Я падыйшоў да ліхтара. У некалькіх месцах на асфальце ляжалі раскатаныя машынамі «аладкі» як адзіныя ўлікі існавання ў гэтым месцы «граковай сталоўкі».

Прынамсі, грэцкі арэх – гэта ўлюбёны прысмак не толькі берасцейскіх гракоў, але і іншых птушак... Да такой высновы я прыйшоў, калі аднойчы сябры паказалі мне вельмі цікавую фатаграфію «птушынай бойкі за арэх»... Аўтар здымка Эла Данцова з ахвотай распавяла гісторыю, сведкай якой ёй давялося быць. У адным з берасцейскіх сквераў была заўважана цікавая асоба з птушынага царства, «бліжэйшая гракова радня» – шэрая варона. Птушка чымсьці нагадвала гераіню адной з баек Крылова, аднак з адной акалічнасцю – замест сыра ў яе дзюбе быў грэцкі арэх. Варона была вельмі занятая сваёй справай, і прысутнасць фатографа ёй аніяк не перашкаджала. Складанасць справы прымусіла птушку пакласці здабычу на тратуар і на некаторы момант моцна задумацца... Менавіта ў гэтыя ж імгненні ля арэха апынуўся невядома адкуль прыляцеўшы грак. Ну і пачалося... Птушак цалкам паглынула «бойка за арэх».

Кожны імкнуўся выкарыстаць увесь арсенал трукаў і прыёмаў. Арэх жа ляжаў на сваім месцы. Хоць бітва была зусім непрацяглай, аднак яе самыя яскравыя моманты трапілі ў кадр. На жаль, вынік гэтай бойкі, як кажуць, «застаўся за кадрам» – тэхніка не дазволіла зафіксаваць развязку: птушкі раптоўна зніклі, як знік і арэх, з-за якога ўсё пачалося...

Апошні эпізод і ўвогуле незвычайны... У адзін з кастрычніцкіх дзён на газоне каля будынка ДК прафсаюзаў па вул. Маскоўскай я заўважыў грака, які займаўся пошукамі ежы. Нічога дзіўнага ў гэтым не было. Аднак, падыйшоўшы бліжэй (а птушка падпусціла на адлегласць у 6-7 крокаў), я звярнуў увагу на яго дзюбу. Дзюба была сапраўды незвычайная – даўжыня яе верхняй часткі амаль у паўтара разы перавышала норму акрамя гэтага, дзюба была загнутая ўніз, як у драпежных птушак. Адзначу яшчэ і тое, што грак выглядаў, як кажуць, «на ўсе сто», напэўна, нягледзячы на вышэй адзначаную акалічнасць, праблем са здабычай ежы ў птушкі не было. Назіранне за «аб'ектам» з блізкай адлегласці працягвалася прыблізна секунд дзесяць, пасля чаго грак, адляцеўшы на метраў сорак, апусціўся на газон і працягнуў свае пошукі.

За штодзённымі клопатамі мы часта шмат чаго не заўважаем. А птушкі, ужо адной толькі сваёй прысутнасцю, дораць нам добрыя і светлыя імгненні. Спыніцеся на хвілінку, паглядзіце на іх – і вы шмат чаго заўважыце і адкрыеце для сябе. І без розніцы, хто будзе перад вамі: верабей альбо сініца, лебедзь альбо качка, ці калі гэта даўно знаёмая птушка ў чорным пер'і з пурпурна-фіялетавым адценнем.

# Шэрая гусь і яе радня

**Сяргей ЗУЁНАК**

## 1 Шэрая гусь
*Anser anser*

Рэдкі гняздуючы від. Патрабуе аховы.

Шэрыя гусі зніклі з тэрыторыі нашай краіны ў пачатку XX стагоддзя. У выніку павелічэння колькасці шэрых гусей у Заходняй Еўропе ў 1960-я гады і рассялення папуляцыі на ўсход у 70-я гады від зноў з'явіўся на гнездаванні ў Паўночна-Заходняй і Паўднёва-Заходняй Беларусі. Памер беларускай папуляцыі зараз не перавышае 200 пар. У адрозненні ад Заходняй Еўропы, дзе колькасць шэрых гусей увесь час павялічваецца, беларуская папуляцыя застаецца на ўзроўні сярэдзіны 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Асноўным фактарам, які абмяжоўвае рост колькасці шэрых гусей у Беларусі, з'яўляецца як непасрэднае паляванне на іх увесну, так і турбаванне іх пад час гнездавання, якое адбываецца ў выніку веснавога палявання на іншых вадаплаўных птушак.

Селіцца ў поймах рэк, на азёрах і вялікіх сажалках з трысняговымі зарасцямі і шырокай прыбярэжнай зонай, а таксама на цяжкадаступных участках балот, парослых хмызняком, трысніягом і чаротам. Асноўнае патрабаванне да выбару месца гнездавання – адсутнасць турбавання чалавекам. Корміцца зранку і надвячоркам на лугах і палях, часта на вялікай адлегласці ад вадаёмаў. Ноч і сярэдзіну дня праводзіць на адкрытай вадзе, вельмі асцярожная. Гняздуючыя ў нас шэрыя гусі ў адрозненне ад іншых, мігруючых, відаў гусей лётаюць парамі альбо зусім невялікімі чародамі, што з'яўляецца дадатковай рысай магчымасці іх гнездавання на гэтым месцы.

Ад гусі-гуменніцы адрозніваецца светлай галавой і шыяй, а таксама ружовай альбо аранжавай (у залежнасці ад падвіду) дзюбай, ад белалобай гусі і піскулькі – больш буйнымі памерамі, адсутнасцю стракацін на ніжняй частцы цела і белай плямы на галаве. У палёце добра адрозніваецца ад іншых відаў гусей па шэрых «панэлях» на крылах, а таксама па голасу, які нагадвае гагатанне свойскіх гусей.



Шэрая гусь

ФОТА: ТАЦЦЯНА РАМАНАВА

## 2 Белалобая гусь
*Anser albifrons*

Шматлікі транзітна мігруючы від.

Самы шматлікі з нашых пралётных гусей. На міграцыйных прыпынках канцэнтруюцца ў поймах рэк, на азёрах, балотах, харчавацца вылятаюць на палі. Вясной найбольш буйныя згуртаванні адзначаюцца ў поймах рэк Прыпяць, Днепр і Сож. Пік веснавой міграцыі прыходзіцца на канец сакавіка – пачатак красавіка, у паўночнай частцы Беларусі – на два тыдні пазней. У гады з позняй цёплай вясной гусі пралятаюць тэрыторыю нашай краіны амаль транзітам з некалькімі кароткімі прыпынкамі, з вяртаннем халадоў часам затрымліваюцца на некалькі тыдняў. Падчас прыпынкаў ноч і дзень праводзяць на вадзе альбо сярод балот падобна да шэрых гусей, вылятаючы на кармёжку раніцай і ўвечары. Восенню інтэнсіўны пралёт назіраецца пераважна ў паўночнай і цэнтральнай частках краіны.

У палёце чарада выстрайваецца клінам альбо хвалістай лініяй, у адрозненне ад іншых відаў гусей, птушкі ў чарадзе часта мяняюцца месцамі. Голас – звонкае адрывістае гагатанне, якое можна перадаць як «клінг-клінг».

Ад шэрай гусі і гуменніцы адрозніваецца наяўнасцю цёмных стракацін на ніжняй частцы цела і белай плямай над дзюбай. Ад сходнай па афарбоўцы гусі-піскулькі адрозніваецца больш буйнымі памерамі, адсутнасцю жоўтага кальца вакол вока і меншымі памерамі белай плямы над дзюбай (не заходзіць на цемя).

## 3 Гусь-гуменніца
*Anser fabalis*

Звычайны транзітна мігруючы від.

Другі па колькасці сярод нашых мігруючых гусей. Сустракаецца на асеннім і вясеннім пралётах, вядомы адзінкавыя выпадкі рэгістрацыі на зімоўцы. Характар пралёту і паводзіны пад час міграцыйных прыпынкаў такія, як і ў белалобай гусі. Голас – гагатанне, больш працяглае і тужлівае, чым у шэрай гусі.

Ад іншых гусей на адлегласці адрозніваецца больш цёмнай афарбоўкай (махавае пер'е амаль чорнае). Ад шэрай гусі адрозніваецца двухкаляровай дзюбай, а таксама тым, што галава і шыя значна больш цёмныя, чым спіна. Ад белалобай гусі і піскулькі – больш буйнымі памерамі, адсутнасцю стракацін на ніжняй частцы цела і белай плямы на галаве.

## 4 Гусь-піскулька
*Anser erythropus*

Вельмі рэдкі транзітна мігруючы від. Адносіцца да глабальна знікаючых відаў, занесены ў Чырвоныя кнігі МСАП і РБ. Патрабуе паўсюднай аховы.

У Беларусі ў невялікай колькасці сустракаецца на міграцыі. Ляціць асобнымі невялікімі чародамі альбо змешанымі чародамі разам з белалобымі гусямі. Для адпачынку і кармёжкі прыпыняецца на буйных вадаёмах, палях і забалочаных лугах. У нашай краіне для піскулек вельмі важнай з'яўляецца ТВП «Ельня», дзе пад час міграцыі прыпыняюцца тысячныя чароды гусей, у тым ліку і гусі-піскулькі.

Ад іншых гусей адрозніваецца значна меншымі памерамі і вельмі характэрным піскслявым голасам, ад сходнай па афарбоўцы белалобай гусі – жоўтым кальцом вакол вока, кароткай дзюбай і вялікай белай плямай на галаве (заходзіць на цемя). У палёце сілуэт піскулькі выглядае больш востракрылым, чым у іншых відаў гусей.

# у Тураве

**ФОТАРЭПАРТАЖ СЯРГЕЯ ЗУЁНКА**



















**Помнік куліку-марадунцы ў Тураве.** ФОТА: СЯМЁН ЛЕВЫ

# НАШИ РАКШИ

**Семен ЛЕВЫЙ**

Как правило, жители больших городов, обитая в «джунглях» многоэтажек, могут только мечтать о нетронутых уголках дикой природы с райскими птицами и диковинными растениями, увидеть которых можно, только посетив далекие тропики. Но, оказывается, это не всегда так. И у нас в Беларуси есть места, где городскому жителю достаточно выйти на окраину и увидеть потрясающе красивых птиц. Одним из таких уникальных мест является город Борисов, где обитает все четыре вида наших ракш – зимородок, удод, золотистая щурка и сизоворонка.

Многие считают этих птиц, не уступающих своим внешним видом райским, самыми красивыми птицами Беларуси. Такой яркой окраской и сочетанием цветов не может «похвастаться» больше никто. Хоть герои этого рассказа и относятся к одному отряду – Ракшеобразные, все они очень разные как по внешнему виду, так и по особенностям биологии.

Все четыре вида нельзя отнести у нас к обычным, часто встречающимся птицам. Если с удодом дела обстоят несколько получше, то зимородок, золотистая щурка и сизоворонка в силу своей редкости занесены в Красную книгу.

### Голубая искра

Главная отличительная черта зимородка, его «визитная карточка» – это, конечно, яркое оперение. Необычно сочетаются зеленовато-голубой верх тела, ярко-голубое надхвостье и кирпично-рыжее брюшко. Самцы и самки у этого вида окрашены одинаково. Единственным отличительным признаком при определении пола может служить цвет основания подклювья – черный у самцов и оранжевый – у самок. Зимородок всегда тщательно заботится о своем оперении. Это проявляется в 15-20-минутных сеансах чистки и приглаживания, которые скрупулезно проводятся по нескольку раз в день.

Зимородок всегда одинаково красив – и когда он сидит на опущенной к воде ветке и выслеживает рыбу, и когда с характерным свистом пролетает низко над водой. Кстати, если бы зимородок иногда не свистел, видели бы мы его значительно реже, а так, как и в случае с куликом-перевозчиком, мы часто в



ФОТО: НИКОЛАЙ ГУЛИНСКИЙ

первую очередь слышим голос, а уж потом начинаем выискивать глазами саму птицу.

Безусловно, в зимородке, подолгу сидящем на ветви и внимательно всматривающемся в воду, есть что-то философское. Недаром в китайской культуре эта птица символизирует затишье, безмятежность, спокойствие, красоту, достоинство, скорость, скромную, склонную к уединению натуру.

Чаще всего наблюдательный пункт зимородка находится на высоте 1–3 метра над водой. Если высота все же оказывается меньше метра, то прежде чем спикировать в воду, птица может сделать «горку», чтобы увеличить дистанцию разгона. Срываясь со своей присады, зимородок заранее приоткрывает клюв и быстро машет крыльями, ускоряя свое падение. Пронзив поверхность воды, птица может погрузиться на глубину до 1 метра, хотя обычно не глубже нескольких сантиметров. Схватив застигнутую врасплох добычу, зимородок тут же поднимается на поверхность. Основную часть рациона «короля рыболовов» – именно так называют зимородка на многих языках – составляют мелкие рыбешки.

Зимородок, несмотря на свое «холодное» название, практически не имеет никакого отношения ко льду или снегу, во всяком случае в наших краях. Остающиеся у нас на зимовку единичные особи скорее исключение, нежели правило.

В Борисове зимородка можно увидеть на реках Сха и Березина, причем иногда в течение всего года, при условии, что реки не замерзли.

### Хохлатый дударик*

Удод красив, и самое заметное в его наряде – оранжевый с черными кончиками хохолок. Среди наших хохлатых птиц удод наиболее презентабелен – хохолок его самый большой и, безусловно, самый эффектный. Он то сложен, словно зачесан назад, и его линия продолжает линию чуть загнутого клюва, то развернут наподобие боевого индейского убора. Положение перьев хохла выражает какие-то нюансы в настроении птицы, и она может разворачивать и складывать это украшение до полусотни раз кряду.

Там, где удод поселяется, его невозможно не заметить. Не только потому, что он пестр, красив и разительно отличается от других птиц, но и благодаря голосу. Песня удода относится к тем тихим звукам природы, которые бывают слышны на огромном расстоянии так же отчетливо, как и вблизи. Картинно красуясь на столбе, вершине дерева или камне, удод глуховато бубнит свое однообразное «у-дудуд» или «уп-уп-уп» (кому как кажется), кланяясь при каждом повторе. Встревоженная птица шипит, птенцов из дупла выманивает негромким кряканьем. Других звуков и сигналов у удода, видимо, нет.

Этим невзыскательным птицам для гнезда годится любая ниша с крышей над головой: куча строительного мусора на свалке, норка в обрыве, колода с выгнившей сердцевиной в дровяном штабеле, дыра в кирпичной кладке сте-



ФОТО: ВИКТОР ТЯХТ

** Згодна сістэматыцы, якая прапанавана выданнем «The Birds of the Western Palearctic» D.W. Snow, C.M. Perrins (Oxford New York, OXFORD UNIVERCITY PRESS, 1998) і ўжываецца большасцю сучасных арнітолагаў, удод аднесены да атраду Ракшападобныя (Coraciiformes).*

ны, щель под крышей, кусок трубы, присыпанный землей и т. д. Лишь бы яйца, которых бывает до двенадцати, не раскатывались из-под насиживающей самки. Под Борисовом нам удалось найти гнездо удода в нише боковой стенки старого бетонированного окопа на военном полигоне. Красавцы-удоды никаким строительством себя не обременяют и никакого дополнительного комфорта ни для себя, ни для птенцов не создают: яйца лежат на какой-нибудь трухе, на золе в завалившейся, старой печке, просто на земле, на голом дне старого дупла дятла.

Полет удода маневрен и легок, так что ему ничего не стоит слетать за кормом на приличное расстояние, что птица обычно и делает, никогда не кормясь возле гнезда. В полете силуэт удода словно бы разрезан на части белыми полосами на крыльях и хвосте.


ФОТО: ВИТАЛИЙ КОЩЕЕВ

### Самородок чистейшей бирюзы

Именно так назвал сизоворонку известный воронежский орнитолог Леонид Семаго. Размером эта птица с галку, в окраске преобладают прекрасный небесно-голубой, фиолетовый и синий цвета, удачно оттененные рыжевато-коричневым цветом спины. Издали сизоворонка похожа скорее на синекрылую бабочку-морфо, нежели на птицу наших широт.

Сизоворонка – один из самых редких наших гнездящихся видов птиц. Численность ее в Беларуси не превышает нескольких десятков пар. Хотя еще в 1970–1980-х годах можно было наблюдать стаи этих птиц, сидящих на проводах и вековых дубах в ожидании момента отлета на зимовку в далекую Африку.

Весной же, возвратившись из тропиков на родину, сизоворонки снова восхищают нас не только красотой свежего наряда, но и свадебными полетами, которыми они выражают собственное настроение и демонстрируют власть над воздушной стихией. Одинаковые, буквально до перышка, самец и самка неразличимы как по внешнему виду, так и по мастерству полета. Взмыв крыло в крыло, они бросаются к земле, чертя в воздухе длинные зигзаги. Крылья почти сложены, и скорость падения такова, что кажется, будто издаваемое при этом негромкое, чуть рокочущее карканье отстает от стремительно несущихся птиц.

Гнезд сизоворонка не строит, и чтобы вывести птенцов, ей обязательно нужно надежное убежище. Скорлупа ее яиц такой белизны, что видна даже в темноте. Птенцы вылупляются совершенно голыми, без единой пушинки, и для них одинаково опасны и солнце, и ветер, и дождь. Сизоворонка обычно использует разнообразные укрытия вплоть до вырытых в обрывах нор. Наши же, белорусские, сизоворонки больше всего ценят просторные дупла деревьев. Гнездиться пары могут и на соседних деревьях, образуя небольшие колонии.

В Борисовском районе сизоворонка не отмечалась довольно долго. И вот в 2008 году настоящим сюрпризом стало обнаружение сразу двух гнездящихся пар на западной окраине города. Более того, птицы успешно отгнездились, а наблюдавшим за ними орнитологам даже удалось окольцевать трех птенцов.

### Пожиратель пчел

Золотистую щурку трудно спутать с другими птицами. Размером она примерно со скворца, но ее тело кажется более стройным и вытянутым из-за острого клюва-«спицы» и узких длинных перьев хвоста. Голова и спина золотисто-коричневые, через глаз проходит черная полоса, горло желтое, брюшко синее, почти бирюзовое, крылья буровато-сизые, хвост зеленый. Каких цветов еще не хватает? Крылья тоже достаточно длинные и острые, позволяющие щурке подолгу планировать в воздухе и высматривать основную добычу – насекомых. Щурки ловят не только жуков, слепней, стрекоз да мух, но и жалящих перепончатокрылых. Клювом, как пинцетом, обезоруживают они грозных пчел или ос. Кстати, по-белорусски птица называется «шчурка-пчалаедка».

Чаще всего щурки селятся вблизи песчаных карьеров. Предпочтение отдается суглинистому грунту. Подобно береговым ласточкам, щурки роют норы, собираясь в колонии до нескольких сотен пар, но в Беларуси, при общей численности этого вида не более полусотни пар, колонии состоят максимум из нескольких гнезд. Во время земляных работ птицы выбрасывают на поверхность до 12 кг грунта! Порой рядом с главной гнездовой норой бывает несколько коротких добавочных – здесь обычно ночует самец. Глубина норы может достигать двух метров. В конце ее располагается гнездовая камера без какой-либо подстилки, в которую птицы откладывают пять-шесть белых яиц. Со временем в глубине норы и на протяжении всего хода накапливаются многочисленные остатки насекомых: крылья, надкрылья, жесткие панцири и тому подобное. Откладывание и насиживание яиц длится три недели. Целый месяц после вылупления птенцы проводят в норе, покидая ее в конце июля–начале августа. Еще около трех недель после этого они будут выпрашивать корм у родителей. А к середине сентября умолкнут мягкие журчащие позывки, и последние птицы-искорки улетят в жаркую Африку.

Под Борисовом щурки вот уже три года гнездятся в небольших обрывах, сделанных людьми для испытания военной техники. Но, к сожалению, уже неоднократно так случалось, что сами же «создатели» впоследствии и разрушали эти места обитания. Надеемся, что и в этом году, и впредь мы будем слышать в окрестностях Борисова веселые голоса летающих над лугами золотистых щурок.

Вот такие замечательные птицы ракши, наши ракши.


ФОТО: СЕМЁН ЛЕВЫЙ

# БЕНЕДЫКТ ДЫБОЎСКІ. ЗАБЫТЫ ЮБІЛЕЙ

**Дзьмітры ВІНЧЭЎСКІ,** Гродненскае абласное аддзяленне АПБ



### Беларускія карані

Браты Бенедыкт і Уладзіслаў Дыбоўскія – знакамітыя біёлагі са шляхецкага роду гербу «Налэнч», якія нарадзіліся на Наваградчыне. У мінулым годзе адзначалі 175-годдзе з дня нараджэння старэйшага з іх – Бенедыкта. Ён пражыў доўгае (амаль 97 год) жыццё, поўнае бурлівых падзей і навуковых адкрыццяў.

Карані роду прасочваюцца з XVI стагоддзя з Койданаўшчыны. Дыбоўскія валодалі маёнткамі і фальваркамі ў межах сучаснай Беларусі і займалі розныя пасады. А браты нарадзіліся ў вялікай сям'і Яна Дыбоўскага і Саламеі Пшысецкай у фальварку Адамарын з розніцай у пяць гадоў і любоў да прыроды і Радзімы захавалі з маленства.

Калі дзеці падгадаваліся, разам даглядалі ваўчаня, лісяня і нават мядзведзіка, стваралі акварыумы-запруды і рабілі першыя назіранні за мясцовымі відамі рыб. Настольнай кнігай у сям'і была «Апісанні прадметаў натуральнай гісторыі» прафесароў Віленскага універсітэта С.Б.Юндзіла і Ф.Юрэвіча, выдадзеная ў 1820 г. з каляровымі малюнкамі. Пачатковую адукацыю дзеці атрымалі дома ад бацькоў ды запрошаных настаўнікаў. Узровень гэтай адукацыі даў Бенедыкту магчымасць адразу паступіць у трэці клас Мінскай гімназіі.

### Адукацыя

Бацькі, заўважыўшы зацікаўленасць Бенедыкта заалогіяй, даслалі яго вучыцца ў нямецкамоўны Дэрпцкі універсітэт (цяпер г. Тарту, Эстонія), які на той час быў сапраўдным цэнтрам медыцыны ды прыродазнаўчых навук. З першага курса медыцынскага факультэта Бенедыкт захапіўся вывучэннем рыб, чаму спрыялі лекцыі і прыклад заснавальніка эмбрыялогіі акадэміка К.Бэра. Менавіта там Дыбоўскі напісаў сваю першую навуковую работу па рыбах Ліфляндыі, якая была адзначана залатым медалём. Аднак з-за ўдзелу ў паядынку паміж студэнтамі ў якасці секунданта Бенедыкт у 1857 г. быў адлічаны з універсітэта без права навучання на тэрыторыі Расійскай імперыі. Між іншым, гэтыя абставіны паспрыялі не толькі паглыбленню адукацыі Дыбоўскага, якую ён працягнуў у Германіі, але і ўмацаванню таго светапогляду, які ён пранёс праз усё сваё жыццё.

Пад час навучання ў Брэслаўскім (Уроцлаўскім) ды Берлінскім універсітэтах ён рэгулярна ўдзельнічаў у экспедыцыях па вывучэнню рыб і ракападобных на Адрыятычным моры і ў розных вадаёмах Германіі, пазнаёміўся са многімі нямецкімі навукоўцамі, а таксама з кнігай Ч.Дарвіна «Узнікненне відаў...» (упершыню была надрукавана ў 1859 г.). Менавіта ў Германіі, адразу пасля азнаямлення з новай тэорыяй, Бенедыкт робіцца прыхільнікам і прапагандыстам эвалюцыйнага вучэння. У пачатку 1860 г. у Берліне Дыбоўскі паспяхова абараняе дысертацыю (пра партэнагенез у пчол і чмялёў) на званне доктара медыцынскіх навук і хірургіі. Пасля гэтага ён вярнуўся ў Дэрпт, дзе, каб пацвердзіць свой дактарат (бо ў Расіі замежныя дыпломы не прызнаваліся), пасля дадатковых даследаванняў падрыхтаваў і ў 1862 г. абараніў дысертацыю па карпавых рыбах Эстляндыі.

### Пачатак выкладчыцкай кар'еры і палітычная дзейнасць

Ягелонскі універсітэт прапанаваў Дыбоўскаму кафедру ў Кракаве. Ён пагадзіўся, але аўстрыйскае міністэрства асветы перашкодзіла ў намінацыі з-за палітычнай недобранадзейнасці кандыдата (у 1861 г. Дыбоўскі ўдзельнічаў у палітычнай маніфестацыі ў Вільні, за што быў арыштаваны і дэпартаваны ў глыб Расіі, але праз непрацяглы час вызвалены). Аднак неўзабаве малады навуковец быў абраны ад'юнкт-прафесарам заалогіі і параўнаўчай анатоміі ў Варшаўскай Галоўнай Школе (фактычна універсітэце), дзе, паводле ўласнага прызнання, стаў *«першым у польскай Айчыне, хто тлумачыў факты эвалюцыйнай тэорыі і паказваў значнасць, якую дадзеная тэорыя прыўносіла ў свет чалавечай думкі».* І калі на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай ён быў першым, дык на тэрыторыі Еўропы – адным з першых. Студэнты любілі маладога выкладчыка і прыхільна ставіліся да яго лекцый.

Акрамя працы ў Школе, як пазней пісаў Дыбоўскі, «з 1862 г. я ўваходзіў у склад тайнага Віленскага таварыства ў Варшаве. У сакратарыяце Літвы *(тагачасная назва Беларусі. – **Дз. В.**)* выконваў абавязкі надзвычайнага камісара». Пасля выбуху паўстання 1863 г. для сустрэч Нацыянальнага ўрада дазваляў займаць памяшканне заалагічнага музея і нават сваю кватэру. Пасля разгрому паўстанцаў, у лютым 1864 г. быў арыштаваны і некалькі месяцаў правёў у Варшаўскай крэпасці. Пасля суда яго чакаў страшны вырак: смяротнае пакаранне праз шыбеніцу. Уратавала Дыбоўскага заступніцтва знакамітых нямецкіх вучоных – прафесараў Рэйхета і Грубэ за пасрэдніцтвам самога Бісмарка, і смяротнае пакаранне было заменена на пазбаўленне ўсіх правоў і 12 год катаргі. Аднак пра царскае памілаванне Бенедыкт даведаўся толькі тады, калі ўжо стаяў пад шыбеніцай...

### Сібір. Катарга і фундаментальныя навуковыя адкрыцці

На вакзале перад адпраўкай палітычных злачынцаў у глыбіню Расіі сябры здолелі перадаць Дыбоўскаму мікраскоп, грошы і розныя рэчы, неабходныя для правядзення навуковых даследаванняў і лекавання хворых. Ён цалкам бясплатна лячыў хворых не толькі падчас падарожжа на ўсход, але і на месцы адбывання катаргі. Разам з

гэтым Дыбоўскі заняўся апісаннем фауны Даурыі, а потым і іншых мясцін. Прыкладна праз 3 месяцы, узімку 1864 г., катаржане дабраліся да Іркуцка, а вясною Бенедыкта з сябрамі, сярод якіх былі арнітолаг Віктар Гадлеўскі, геолаг Аляксандр Чаканоўскі, мастак Уронскі, былы студэнт і будучы арнітолаг Міхаіл Янкоўскі, перавялі ў в. Сівакова ля Чыты. Там яны жылі ў зямлянках і будавалі баржы. Калі катаржнікаў адпраўлялі за дровамі, Дыбоўскі стараўся папоўніць свае веды пра жывёльны свет Сібіры і асабліва птушак, якіх лавіў сілкамі, а рыб у рацэ Інагда – самаробнымі кручкамі. Падпарадкуючыся сваім эвалюцыйным перакананням, Дыбоўскі быў упэўнены, што дзякуючы розным умовам асяроддзя фауна Сібіры павінна адрозніваецца ад жывёльнага свету Еўропы. Сам навуковец пісаў пра гэта так: *«Хаця назіранні былі праведзены ва ўмовах, якія моцна не спрыялі навуковым даследаванням, тым не менш яны пралілі новае святло на фауну Усходняй Сібіры. Справа ў тым, што на аснаванні работ рускіх акадэмікаў, у той час панавала меркаванне, што вышэйзгаданая фауна нічым не адрозніваецца ад усходне-еўрапейскай, між тым даследаванні, праведзеныя ў Дарсуне, паказалі, што паміж фаунай узгаданых мясцін існуе вялікае адрозненне. Некалькі сотняў птушак розных відаў, а таксама калекцыі іх гнёзд і яек, дасланыя ў Варшаву Тачаноўскаму, дастаткова ўпэўнілі ў гэтым натуралістаў».* На жаль, Уладзіслаў Тачаноўскі так і не давёў да канца камеральную апрацоўку атрыманых калекцый...

Адзін з высокіх мясцовых чыноўнікаў зацікавіўся даследаваннямі Дыбоўскага і дапамог яму з Гадлеўскім перабрацца ў Дарсун. Там прымусовай працы ўжо не было, і Бенедыкт працаваў выключна доктарам. Цяпер навуковец меў нашмат больш часу для апрацоўкі здабытых самастойна і прынесеных мясцовымі жыхарамі (у знак падзякі за бясплатнае лячэнне) жывёл.

Аднойчы прыйшла нечаканая навіна – цар выдаў маніфест, згодна з якім тэрмін катаргі змяншаўся напалову, а праз нейкі час – яшчэ на чвэрць. У канцы 1868 г. дзякуючы шырокай вядомасці Дыбоўскага як выдатнага доктара (да канца жыцця ён ніколі не браў за дапамогу хворым грошай) мясцовы губернатар спачатку скасаваў пазасталы тэрмін катаргі і датэрмінова дазволіў яму з сябрамі (Гадлеўскім і Ксенжапольскім) атрымаць статус пасяленцаў, а потым і перабрацца ў сяленне Култук на беразе Байкала.



**Б. Дыбоўскі (у цэнтры) на катарзе**

Трэба адзначыць, што сярод тагачасных навукоўцаў існавала перакананне, што ў гэтым найглыбейшым на зямлі возеры з-за велізарнага ціску вады жыццё мае вельмі абмежаваныя формы. Як пазней занатаваў Дыбоўскі, *«засноўваючыся на гэтых меркаваннях, Сібірскае аддзяленне Імператарскага Рускага Геаграфічнага таварыства не палічыла патрэбным падтрымаць нас, і першыя нашы доследы былі праведзены пры выкарыстанні выключна нашых уласных сіл і сродкаў, а дакладней, без усялякіх сродкаў».* На атрыманыя з Украіны ад натураліста і мецэната графа Канстанціна Браніцкага грошы Бенедыкту Дыбоўскаму разам з сябрамі ўдалося літаральна перавярнуць уяўленні аб прыродзе і лімналогіі Байкала. (Неабходна заўважыць, што адзін з новых для навукі відаў рачкоў атрымаў імя ў гонар Браніцкага – *Macrogectonus branickii).*

Па некалькі тыдняў зімою яны жылі на лёдзе возера, самаробнымі прыборамі праводзілі замеры тэмпературы і рабілі хімічныя аналізы вады, мералі яе перапады. Асаблівым гонарам Дыбоўскага стала нечаканае адкрыццё ў 1869 г. яйкажывародасці галамянкі – амаль празрыстай рыбкі – эндэміка Байкала. Праз 36 гадоў, яшчэ пры жыцці навукоўца, новаапісаны від гэтага роду – малую галамянку – назавуць у яго гонар: *Comephorus dybowski* (Korotneff, 1905).

З надыходам вясны даследчыкі пераключаліся на вывучэнне мясцовых звяроў і птушак. Дыбоўскі пісаў аб гэтым так: *«У пачатку траўня, з адступленнем льду ад берагоў, мы заняліся даследаваннем наземнай фауны, прычым аказалася, што наваколле Култука вельмі падыходзіць для назіранняў пералёта птушак. Тут на працягу вясны і часткі восені мы паспелі сабраць багаты арніталагічны матэрыял; гэты матэрыял і даў нам магчымасць канчаткова ўпэўніцца ў справядлівасці нашага дапушчэння... а менавіта, што амаль усе мясцовыя віды адрозніваюцца ад еўрапейскіх».*

Дзякуючы ўласнай самаадданасці і ахвярнасці таварышаў, Дыбоўскаму ўдалося вылавіць і пазней апісаць 130 новых відаў рачкоў-бакаплаваў (многія з якіх былі эндэмікамі Байкала), 18 новых відаў рыб, адправіць у еўрапейскія музеі больш за 2500 чучал птушак, больш за сто тысяч насякомых, павукоў і іншыя багатыя калекцыі. У выніку дакладнага вывучэння дна возера высветлілася, што яно, па словах Дыбоўскага, *«кішыць такім жыццём, якое наўрад ці можна сустрэць у паўднёвых морах».*

Даследаванне Байкала (з невялікімі перапынкамі) працягвалася больш за тры гады. Мясцовы чыноўнік у сваёй справаздачы аб працы Геаграфічнага таварыства, між іншым, напісаў аб дасягненнях Б.Дыбоўскага і В.Гадлеўскага: *«Мы видим громадное приращение 149 видов птиц для Байкала и 117 для Иркутской губернии».* Фундаментальнымі даследаваннямі Байкала, якія былі апублікаваны ў выданнях Геаграфічнага таварыства і адзначаны Залатым медалём, наш зямляк стаў вядомы ва ўсім свеце.

*Працяг будзе*

# СТАНЕТ ЛИ СЕРЫЙ ГУСЬ ОБЫЧНЫМ ВИДОМ В БЕЛАРУСИ?

**Александр КОЗУЛИН**

Как-то в середине 1990-х, будучи на полевых работах в заказнике «Званец», мы неоднократно просыпались по утрам от непривычного раньше для наших мест гогота серых гусей. Вначале не верилось – неужели серый гусь возвратился в свои родные места после более чем восьмидесяти лет отсутствия? Но, как показали дальнейшие события, отдельные пары серых гусей появились на гнездовании не только на болоте Званец, а сразу в нескольких местах Беларуси. Однако возвращение серых гусей в нашу страну оказалось не таким простым и успешным, каким оно было, например, для лебедя-шипуна.

Европу дикие гуси разделили на сферы влияния: гуменник, белолобый гусь и пискулька поселились в зоне тундры, а самый крупный вид – серый гусь – обосновался в зоне более теплого климата от Франции до Москвы. В XIX веке, по мере увеличения плотности населения Европы и усиления преследования человеком, серый гусь уменьшил численность и к середине века исчез с большей части территории, на которой ранее гнездился. Во всей Европе к середине XX века остались лишь небольшие локальные участки, на которых эти птицы продолжали выводить потомство. В Беларуси серые гуси исчезли, так же как и лебеди-шипуны, в начале XX века, не вынеся преследования со стороны человека и в результате того, что эти чрезвычайно осторожные птицы не терпят присутствия людей в местах гнездования.

Но времена менялись, и человек начинал сознавать, какие потери может принести его потребительское отношение к природе. Первой это осознала Западная Европа, где на гусей вначале была прекращена весенняя, а затем и осенняя охота, так же как и любое другое преследование серых гусей и лебедей.

Птицы быстро отреагировали на введение дополнительных мер охраны. Практически сразу они изменили свою гнездовую стратегию и стали селиться по соседству с человеком. Конечно, большое значение в появлении популяций, не боящихся людей, имело полувольное разведение гусей и лебедей в парках и городах. В результате коренного изменения отношения человека серый гусь начал свое победное шествие по Западной Европе. За короткий промежуток времени его численность здесь возросла во многие разы, и появилась потребность в ее регулировании, для чего во многих странах серый гусь был переведен в ранг охотничьих видов. Столь быстрый рост популяции вида в Европе был обусловлен тем, что его экологическая ниша оказалась свободной, и после того, как был устранен фактор беспокойства в период размножения и лимитирован отстрел осенью, серый гусь стал быстро занимать свободное пространство. Этому также способствовало наличие в Европе бесконечных сельскохозяйственных полей, весьма благоприятных для обитания вида.

Постепенно вслед за ростом численности серый гусь распространялся все дальше на восток, и в 1970-х годах пер-



ФОТО: ТАТЬЯНА РОМАНОВА

вые пары достигли нашей территории. Вопреки ожиданиям, быстрого роста численности вида, как это произошло при возвращении в Беларусь лебедя-шипуна, к сожалению, не произошло. За 38 лет, прошедших с момента появления первых гнездящихся птиц, численность гусей в Беларуси достигла 200 размножающихся пар, тогда как в соседней Польше она составляет более 3000 пар, а в Германии – 10 000–18 000 пар. Основной причиной, сдерживающей рост численности вида, является сложившееся отношение к гусю как к типично охотничьей птице. В угодьях, где весной ведется интенсивная охота, серые гуси никогда не достигнут высокой численности, а в Беларуси не так уж и много подходящих для их гнездования водоемов и территорий, на которых бы не велась весенняя охота на уток или мигрирующих гусей. Считается, что серые гуси чрезвычайно умные птицы, по интеллекту их можно сравнить с воронами и собаками, поэтому они чутко реагируют на отношение к себе человека. Например, в странах, где отсутствует весенняя охота, размножающиеся гуси практически не обращают внимания на присутствие людей. В Беларуси гусей с выводком увидеть непросто, потому что они относятся к человеку как к самому страшному хищнику и всячески избегают показываться ему на глаза, а в случае внезапного приближения человека бросаются от него в паническое бегство. Конечно, самое сложное в наших условиях – это изменить отношение человека к гусю. С лебедем благодаря его особому «имиджу» этот процесс прошел без проблем, и результат оказался налицо – бережное отношение человека привело к быстрому восстановлению вида на былых местах гнездования. Теперь трудно представить наши водоемы без лебедей-шипунов, а ведь они вернулись в Беларусь всего на несколько лет раньше серого гуся. Мне кажется, что у каждого не равнодушного к природе человека замирает сердце от гогота гусей или от вида летящего гусиного клина. Мы, белорусы, видим и слышим их только в короткий период пролета «чужих» мигрирующих гусей, хотя куда приятнее ощущать постоянное присутствие в наших угодьях «своих», «родных» птиц. Учитывая то, что численность серого гуся у нас по-прежнему остается на чрезвычайно низком уровне, а всякое усиление преследования вида со стороны человека может привести к его исчезновению, орнитологи предложили включить серого гуся в очередное издание Красной книги Республики Беларусь (2004 год). Планировалось, что данная мера позволит усилить пропагандистскую деятельность и изменить отношение местных жителей, и прежде всего охотников, к этому виду. Результатом должен был стать дальнейший рост численности популяции, и по достижении ее нескольких тысяч размножающихся пар можно было бы рассматривать вопрос об исключении серого гуся из Красной книги и даже внесении в список охотничьих видов. Некоторые охотники восприняли в штыки предложение об усилении охраны вида, основной причиной чего было элементарное незнание современной ситуации.

Основными аргументами противников внесения серого гуся в список охраняемых были:

- вид многочисленен на миграции и летит через территорию Беларуси вместе с другими пролетными гусями. Это в корне не так: серый гусь в период весенней и осенней миграции – очень редкий вид. Через территорию Беларуси серые гуси практически не мигрируют по причине отсутствия крупных группировок птиц, гнездящихся восточнее Беларуси. В частности, гуси, гнездящиеся на Волге, летят зимовать на побережье Каспийского моря. Таким образом, весной в Беларуси встречаются только наши, белорусские птицы, которые прилетели к нам размножаться;

- охотники не умеют различать виды гусей в полете, и при охоте на мигрирующих гусей под выстрел будут попадать и серые гуси (краснокнижный вид, за отстрел которого положен немалый штраф). Что можно ответить на этот аргумент? В Беларуси в последние годы изменяется отношение и требования к охоте и охотникам, и одним из современных требований к человеку с ружьем должно стать четкое знание и умение охотника определять охотничьи виды в природе, когда если он не может определить вид объекта, то должен воздержаться от выстрела. Таковы общие правила, и их должен придерживаться любой охотник, поскольку есть много примеров сходства охотничьих видов птиц с «краснокнижниками»: кряква – шилохвость, бекас – дупель, хохлатая чернеть – белоглазая чернеть, белолобый гусь – гусь-пискулька. И подобное сходство никогда не было аргументом для исключения редких видов животных из Красной книги. Уже сейчас готовятся и есть пособия, по которым можно научиться определять разные виды гусей в полете, чтобы избежать выстрела по глобально угрожаемому виду гусю-пискульке или серому гусю. На самом деле спутать серого гуся с мигрирующими видами довольно трудно, даже не зная, как определить его в полете. Дело в том, что в период весенней миграции «северных» видов гусей серые гуси уже держатся парами вблизи гнездовых территорий, в то время как мигрирующие гуси, как правило, образуют крупные стаи. И если охотник воздержится от выстрела по низко летящей паре гусей или одиночной птице, которая кружит около своего гнезда, то риск того, что под выстрел попадет серый гусь, станет минимальным. Кроме того, любой охотник, желающий научиться различать гусей, может купить специальный CD-диск и после нескольких прослушиваний будет свободно отличать виды в пролетающих стаях по голосам.

Нужно сказать, что приведенные в защиту серого гуся аргументы были правильно поняты охотниками, и он занял принадлежащее ему по праву место в Красной книге Беларуси. Однако вскоре этот вид благодаря лобби-



ФОТО: ЛОРАН Де МОНЖАН



ФОТО: ТАТЬЯНА РОМАНОВА

рованию охотников вновь исключается из Красной книги и, несмотря на рекомендации ученых, вносится в список охотничьих видов. А к этому времени совершается еще одна ошибка, которая становится приговором не только серому гусю, но и большинству других водоплавающих птиц Беларуси. Этим приговором стало снятие практически всех запретов на проведение весенней охоты на гусей и уток, в результате чего она стала такой же массовой, как и летне-осенняя. В последние годы количество путевок, продаваемых на охоту в весенний период, достигло таких же или даже больших объемов, чем летом и осенью. Кроме того, период весенней охоты в значительной мере совпадает со сроками гнездования прочих околоводных птиц. Новые правила охоты привели к тому, что в водно-болотных угодьях в апреле-мае (пик массового гнездования утиных) ведется такая же интенсивная охота, как ранее наблюдалась при открытии летне-осеннего охотничьего сезона. Например, в одном из мест в пойме Припяти на открытии летней охоты число выстрелов составило 340, тогда как в конце апреля в том же месте – 450. В результате такого стиля ведения охотничьего хозяйства в последние годы в летне-осенний период в Беларуси охотиться стало практически не на кого. Летом 2007 г. средняя добыча охотника в день открытия летне-осенней охоты в пойме Припяти составила 1,6 утки, тогда как в конце XX столетия она превышала 10 птиц, причем количество охотников осенью тогда было в десятки раз больше, чем в последние годы. При продолжении такой весенней охоты мы рискуем потерять своих водоплавающих птиц буквально в течение нескольких десятилетий, поскольку местное маточное поголовье будет невосполнимо подорвано.

Но вернемся к нашему серому гусю. В результате ведения весенней охоты по современным требованиям серый гусь, вероятно, будет оставаться в наших угодьях очень редким видом, поскольку большая часть приступающих к гнездованию птиц отстреливается весной или гнездится неуспешно. Об этом свидетельствует и такой случай. Еще в начале апреля нам позвонил егерь и похвастался тем, что в своих угодьях в пойме Припяти нашел два гнезда серого гуся и ожидает, что скоро у них появятся птенцы. Однако уже после первых дней весенней охоты пришло сообщение, что самок на гнездах нет. Вероятнее всего, они были отстреляны охотниками, поскольку, будучи вспугнутыми с гнезд, беспокоящиеся самки кругами низко летают над гнездовой территорией. Самцы серого гуся в ранние утренние и поздневечерние часы обычно совершают облет участка в районе гнезда, также рискуя при этом попасть под выстрелы. К сожалению, при таком отношении к природе мы еще долго не сможем наблюдать у нас серых гусей в таком количестве, в каком они сейчас отмечаются в пойме Припяти на Украине. Правда, и у нас встречаются рачительные хозяева, такие, например, как администрация Национального парка «Браславские озера», где численность серых гусей в запрещенной для охоты зоне только на одном озере Обстерно составила более 15 размножающихся пар.

Что же нужно делать для того, чтобы спасти белорусского серого гуся, а вместе с этим и создать условия для успешного гнездования прочих околоводных птиц? Прежде всего нам нужно полностью отказаться от весенней охоты на водоплавающих птиц, так как это сделали все прогрессивные европейские страны.

Если же этого сделать не удастся, то в качестве временного альтернативного варианта следует вернуться к старым апробированным правилам ведения весенней охоты со введением ряда новых ограничений:

- разрешить охоту только на селезней крякв, исключив из списка охотничьих остальные виды уток;
- охоту на селезней крякв вести только из укрытия с подсадной уткой, запретив использование электронных способов подманивания;
- размер добычи на одного охотника установить не более 2 птиц за утро;
- охота должна завершаться к 10 апреля, когда начинается массовое гнездование кряквы.

Охота на гусей:

- разрешить охоту только на гуменника и белолобого гуся;
- серого гуся исключить из списка охотничьих видов, а на потенциальных местах его гнездования запретить также и весеннюю охоту на селезней уток;
- охоту на гусей разрешить только на местах кормежки – на сельскохозяйственных полях и запретить в водно-болотных угодьях, служащих местами гнездования околоводных птиц;
- период охоты на белолобого гуся и гуменника должен быть сокращен: в Брестской и Гомельской областях – до 10 апреля; в остальных областях – до 20 апреля.

# Новы для Беларусі від птушак адзначаны ў Маларыцкім раёне!

**Дзяніс КІЦЕЛЬ,** Заходне-Палескае аддзяленне АПБ

За тры дні да надыходу новага, 2009 года, на ачышчальных сажалках горада Маларыты Брэсцкай вобласці адзначаны новы від для Беларусі – горная пліска *(Motacilla cinerea)*.



ФОТО: АРХИВ АПБ

Напярэдадні здарэння я рыхтаваўся да зімовай сесіі, і таму, вырваўшыся са сцен роднага універсітэта і дабраўшыся дадому, на наступны ж дзень вырашыў зрабіць невялічкую прагулку па наваколлі, свежым паветрам падыхаць, на мясцовых птушак паглядзець. Усе мясціны з дзяцінства мне добра знаёмыя, таму і наконт птушак мог ужо зрабіць нейкія высновы, куды лепш ісці і дзе глядзець. Надвор'е, трэба адзначыць, не спрыяла добрым назіранням: холад прабіраў да касцей, рукі амаль не адчуваліся падчас назірання ў бінокль.

Але птушкі былі, і яны вабілі за сабой. Як звычайна адбываецца, назіраючы то за аднымі птушкамі, то за другімі, губляеш адчуванне часу і хутка разумееш, што аддаліўся ад першапачаткова запланаванага маршруту. Менавіта так я і апынуўся на сажалках ачышчальных збудаванняў горада. За больш чым чатыры гады перыядычных назіранняў тут мне так і не давялося бачыць у зімовы час «цікавых» відаў. Вадаёмы на 90% заўсёды былі пакрыты ільдом, водна-балотным відам тут, адпаведна, рабіць няма чаго, а звычайных сініц і каралькоў можна і ў іншых месцах назіраць.

Прыслухоўваючыся да галасоў, я спыняўся, зноў і зноў падносіў да вачэй бінокль. Вялікія сініцы,... сінія сініцы,... а вось крапіўнік трашчыць у чароце!.. Звычайная стрынатка паляцела... Так... а гэта ў нас хто?

Па тонкай ледзяной кромцы каля гарачага стоку вады мітусілася нейкая птушачка. Пачынаўся снегапад, над цёплай вадой на марозе ўзнімалася пара, таму дэталёва разгледзець незнаёмку было цяжкавата. Больш за ўсё яна нагадвала жоўтую пліску. «Назіраць гэты від узімку, напэўна, рэдкая з'ява», – падумалася мне, і я вырашыў падзяліцца сваімі сумненнямі з маім сябрам Сямёнам Левым, каардынатарам Клуба200. З тэлефоннай размовы высветлілася, што дагэтуль жоўтая пліска на зімоўцы ў Беларусі не адзначалася.

На нашых плісак незнаёмка была падобна мала, таму я вырашыў зрабіць яшчэ адзін званок, каб высветліць, да якога падвіду яна можа адносіцца. Вызначальніка ў мяне, вядома ж, не было, таму я набраў нумар яшчэ аднаго сябра, Сяргея Абрамчука, які ў гэты час, на шчасце, аказаўся дома. Пошукі ў вызначальніку таксама нічога не далі. Падзякаваўшы сябра за дапамогу, я вырашыў яшчэ трошкі паназіраць.

І раптам мільганула думка: «Дык гэта ж зусім не жоўтая пліска!!! А ГОРНАЯ!!!» Так, і чаму толькі я адразу не прызнаў яе? У Крыме і Швецыі мне даводзілася сустракацца з гэтым відам не раз. У яе афарбоўцы не было нічога, што магло б вызваць спрэчкі: тыповая горная пліска з шэра-блакітнай спіной і галавой, яркім жоўтым падхвосцем, чорнымі з палоскамі крыламі.

– Сяргей! – адзваніўся я яшчэ раз сябру. – Гэта пліска не жоўтая... Яна ГОРНАЯ! Прыязджай!..

– Еду... – пачулася ў адказ, і мой тэлефон «памёр».

Зразумеў Сяргей што-небудзь ці не, я ведаць не мог, таму вырашыў схадзіць да вартаўніка ачышчальных збудаванняў. У іх асобная каморка з катлом і вадою, ёсць электрычнасць. Часцей за ўсё вартаўнікі нават і не выходзілі за ўсю змену на сажалкі, ды і навошта? Красці там няма чаго, працэс ідзе, яму нічым не дапаможаш, ды і горш не зробіш. Была змена як раз майго добрага знаёмага, і ён дазволіў мне патэлефанаваць са свайго апарата. Сувязь нарэшце ўладкавалася, Сяргей ужо ехаў. Чакаючы яго, я з асалодай пацягваў прапанаваную вартаўніком гарбату.

Як заўсёды вясёлы, з усмешкай на вуснах, Сяргей пасля прывітанняў пачаў аб нечым жартаваць, мы пасмяяліся. Але, падыходзячы бліжэй да дамбы, якая раз'ядноўвала нас і птушку, мы прыціхлі і нават крыху прыгнуліся. Горная пліска, не заўважаючы нас, сур'ёзных і засяроджаных, бесклапотна бегала па лёдзе на супрацьлеглым баку сажалкі, пераварочваючы балотную траўку і хапаючы нейкіх бесхрыбетных.

– І як гэта ты ў ёй жоўтую пліску разгледзеў? – усміхаючыся, зірнуў на мяне Сяргей. – Яна ж зусім не падобная на яе!

– Хацелася б мне паглядзець на цябе ў такой сітуацыі! Лепш здымай яе хутчэй, дзе твой фотаапарат? – парыраваў я.

І тут стала зразумела, што фотаапарат застаўся ў машыне. Што рабіць? Давядзецца ісці за ім... Усё яшчэ прыхіляючыся, мы крыху адбеглі ўбок і толькі тады выпрасталіся ў поўны рост. Не сказаць, што паспяшаліся, бо паспелі нават нагаварыцца адзін з адным, пакуль хадзілі да машыны, усё ж у думках я марыў хутчэй зрабіць файны здымак для БАФК* і вярнуцца дамоў, бо добра-такі змерз.

Але толькі мы зноў трошкі прыўзняліся з-за дамбы, пліска цвыркнула нешта па-свойму і... паляцела за лес. Такога ад яе я зусім не чакаў. У гэты дзень больш нічога не здарылася, і я, крышачку засмучаны, адправіўся ў горад.

У наступныя дні горная пліска яшчэ не раз рабіла падобныя сюрпрызы: праз такія паводзіны яе пабачылі далёка не ўсе, хто ў гэты час прыязджаў, каб паглядзець на «маларыцкі цуд». Аднойчы два фатографы яе літаральна заганялі з месца на месца, пакуль не вымусілі зноў збегчы. А здымка так і не зрабілі!

І, напэўна, фатаграфіі не было б зусім, каб не партызанскія карані Аляксандра Сербуна. Мы разам сустракалі Новы год (дарэчы, у вёсцы Олтуш) і нават у першы дзень года ездзілі паглядзець пліску. Увесь час Саша спрабаваў злавіць птушачку ў фотааб'ектыў, але яна мела на гэты конт сваё меркаванне і была вельмі сарамлівай фотамадэллю. Аднойчы, нікому не сказаўшы, Саша цішком прыехаў з Брэста ў Маларыту і зрабіў-такі здымак. Якім чынам – застаецца загадкай. І не колецца – партызан!

Ну, і на прыканцы, імёны тых, хто яшчэ, акрамя нас, далучыў горную пліску да свайго асабістага беларускага спіску: Юрый Янкевіч, Аляксандр Рак, Андрэй Абрамчук, Юрый Бакур, Марына Дзямешка, Віктар Фянчук, Іван Багдановіч, Раман Шкабара.

* *БАФК – Беларуская арніта-фаўністычная камісія*










## ТВП «ТУРАЎСКАЕ БАЛОННЕ–2009»

1 **Кулік-цякун.** Фота Васіля Фядосенкі
2 **Кулік-селянец.** Фота Таццяны Раманавай
3 **Кнігаўкі.** Фота Сяргея Грыца
4 **Жоўтая пліска.** Фота Андрэя Несцерава

2



«Жывая» Ельня
(да артыкула М. Мінке)
Фота: Сяргей ПЛЫТКЕВІЧ